# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 23 (37) *6—12 жнiўня 1993 года* Кошт 5 рублёў


**ВЫХАД З** паліўна-энэргэтычнага **КРЫЗІСУ.**

**ФАРНЫ КАСЬЦЁЛ** у Горадні. Вяртаньне да людзей.

**«БАСОВІШЧА-93».** Вынікі фэстывалю маладой беларускай музыкі.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕПЕРАДАЧ** на тыдзень. Менск — Масква — Варшава.



*Малюнак С. ХАРЭУСКАГА*

## Госьці з Кітаю

4 жніўня Горадню наведала дэлегацыя з Кітаю. Прадстаўнікі Камітэту па зьнешніх справах Усекітайскага Сходу на чале са старшынём Янам Чжэням наведалі вобласьць для высьвятленьня магчымасьцяў дзелавога супрацоўніцтва. Гасьцей цікавяць дасягненьні ў галіне сельскай гаспадаркі, перапрацоўчай і лёгкай прамысловасьці. Адбылася сустрэча са Старшынём Гарадзенскага аблвыканкаму Зм. Арцыменем, пасьля якой было наладжана знаёмства з гістарычнымі мясьцінамі Горадні. 5 жніўня госьці наведалі гарадзенскі тонкасуконны камбінат і калгас «Кастрычнік» Гарадзенскага раёна.

**С. Л.**

## Да доктара са сваімі лекамі

Каб атрымаць неабходную мэдыцынскую дапамогу, некаторыя менчукі пачалі хадзіць на прыём да дактароў са сваімі лекавымі прэпаратамі. Старэйшая сястра менскага псіханэўралагічнага шпіталю Аляксандра Мельнікава зазначыла, што ў шмат якіх сталічных шпіталях і паліклініках не хапае нават стэрыльнай ваты.

**Г. У.**

## Беларусь прапануе супрацоўніцтва

У Менску выйшла ў сьвет першае выданьне зборніка «Рэспубліка Беларусь: магчымасьці дзелавога супрацоўніцтва», якое падрыхтавана інфармацыйна-камэрцыйным цэнтрам пры Міністэрстве замежных спраў рэспублікі. Асноўнае прызначэньне зборніка — даць агульнае ўяўленьне аб эканамічным патэнцыяле Беларусі й пазнаёміць замежных партнёраў з асноўнымі заканадаўчымі актамі, якія рэгламэнтуюць гаспадар жыцьцё нашай дзяржавы. У выданьні таксама акрэсьлены пэрспэктыўныя й прыярытэтныя сфэры прыцягненьня замежных інвэстыцый у эканоміку, ёсьць у ім зьвесткі пра банкаўскую сістэму Беларусі, адрасы й тэлефоны буйнейшых банкаў рэспублікі.

Бізнэсмэнам з-за мяжы вельмі прыдадуцца каардынаты міністэрстваў, камітэтаў, камісій РБ, гандлёвых прадстаўніцтваў замежных краін у рэспубліцы, рэспубліканскіх зьнешнегандлёвых арганізацый, дыпламатычных прадстаўнікоў у нашай краіне і амбасадаў РБ у тых краінах, дзе яны ўжо адчынены.

Надрукавана выданьне на беларускай, расейскай і ангельскай мовах.

**С. Л.**

А. У. Мілінкевіч:

## «Назва вуліцы павінна выхоўваць»

Сямідзесяцігадовае панаваньне на Беларусі марксісцка-ленінскай ідэялёгіі не магло не адбіцца на назвах вуліц, плошчаў у населеных пунктах. У кожным горадзе яны былі названыя імёнамі Маркса, Энгельса, Леніна, гэрояў рэвалюцыі й грамадзянскай вайны, рускіх пісьменнікаў і іншых людзей, якія ніякага дачыненьня да рэспублікі ня маюць. У выніку беларускія гарады і мястэчкі страцілі свой твар, сваю своеасаблівасьць. Выправіць становішча, якое склалася, прызваны тапанімічныя камісіі. У кастрычніку 1990 года Гарадзенскі гарсавет прыняў рашэньне аб вывучэньні гісторыі горада й пераглядзе назваў вуліц. Як вынік, была створана гарадзкая тапанімічная камісія, апошні склад якой зацьверджаны 20 мая 1992 года. Гутарка з яе старшынём, намесьнікам старшыні гарвыканкама Аляксандрам Уладзіміравічам Мілінкевічам прапануецца чытачам газэты.

**— Аляксандр Уладзіміравіч, што зроблена ўдзельнікамі камісіі за час яе існаваньня?**

— У склад яе ўвайшлі прафэсары, дацэнты унівэрсітэта, усяго 26 чалавек, людзі, якія добра ведаюць гісторыю Горадні. У архівах яны адшукалі шмат зьвестак. Цяпер па старажытнаму цэнтру існуе багаты матэрыял, зроблены рэестр па вуліцах, якія знаходзяцца там, а іх каля 60. Мой абавязак — расказаўшы пэўную гісторыю, пераканаць дэпутатаў, што менавіта так павінна называцца вуліца. Па нашай прапанове зьменены назвы васьмі вуліц: Навазамкавая — на Давыда Гарадзенскага, А. Кашавога — на Вялікую Траецкую, 8 Марта — на Малую Траецкую, К. Цэткін — на Дамініканскую, Замкавы тупік — на Цесную, Крупскай — на Стэфана Баторыя, Энгельса — на Гараднічанскую, Пасіянарыі — на Калючынскага, плошча Леніна — на Тызэнгаўза. Не пажадалі дэпутаты, каб плошча Савецкая называлася Стары рынак.

Часам нас папракаюць, што мы не сьпяшаемся. Але ж складана знайсьці неабходныя зьвесткі. Я нядаўна прачытаў у пэрыядычным друку, што 10 лютага 1931 года польскія ўлады зьмянілі назвы 170 вуліц, гэта прыкладна ўсе тады існаваўшыя. Калі адшукаем гэты сьпіс, працаваць будзе лягчэй. Зараз галоўнае, каб былі шыльды для вуліц, якія называюцца інакш.

**— А чаму няма новых шыльдаў?**

— Справа ў тым, што тэхналогія іх вырабу вельмі складаная. У Горадні на прамысловых прадпрыемствах іх зрабіць немагчыма. Спрабавалі мясцовыя мастакі, але нічога не атрымалася, патрэскалася фарба. З верасьня мінулага года ў Берасьці намі зроблены заказ. Але ж з боку вытворцаў няма зацікаўленасьці, бо надта малая колькасьць шыльдаў нам неабходна. Зьвярталіся да іх мэра, ён абяцаў дапамагчы. Хутка павінны прывезьці першыя ўзоры.

**— Чым кіруюцца члены камісіі пры выбары назвы?**

— Звычайна бяром назвы больш старажытныя. Калі пра гэта зьвестак няма, то, як і нашы продкі, называем у залежнасьці ад таго, куды яна вядзе ці што на ёй знаходзіцца. Лічу, што не абавязкова пытаць у людзей, бо думкі іх недастаткова абгрунтаваныя з-за няведаньня гісторыі. Мы адказна ставімся да справы, бо, не дай Божа, пасьля нас хтосьці яе будзе пераробліваць. Назвы вуліц павінны выхоўваць чалавека, абуджаць у ім патрыятызм, цікаўнасьць. І калі іх бяруць з гісторыі іншых дзяржаў, яны ня маюць культурна-гістарычнага сэнсу.

**(Працяг на 4 стар.).**

# ПАЛІТЫКА

## Шырокі двор, ды й невялікі збор?

Узгадваецца мітынг у старым парку Горадні, арганізаваны дэмактарычнымі рухамі — БНФ, Грамадой ды й іншымі. Людзей сабралася небагата. Не павялічыла іх колькасьць і бадзёрая музыка, што гучала з дынамікаў. Прыйшлі тыя, хто падзяляе погляды на сучасныя палітычныя працэсы ў рэспубліцы з боку Беларускага Народнага фронту, Сацыял-дэмакратыі. Заўважым, нямнога прыхільнікаў прывялі пад сваімі штандарамі с.с. К. Жынь, М. Сьлесарчук, М. Патрэба...

Але Бог з імі, з прысутнымі. Можа, якраз паўплывала тое, што дзень быў працоўны, будзённы, запоўнены клопатамі й турботамі пра хлеб надзённы. Ды ня ўсё ж вымяраецца лічбамі, нарэшце!

Мяне ж уразіла тое, пра што гаварылі перад мікрафонам арганізатары. Раней так пераказвалі перадавіцы цэнтральных газэт палітінфарматары й агітатары. Па-другое, навошта агітаваць за дэмакратыю й прагрэс удзельнікаў мітынгу, калі яны даўно з агітаваныя й пераканаыя. Агітаваць якраз трэба тых, хто не прыйшоў. Гаварыць ж пра дрэнны й нікчэмны Вярхоўны Савет, неразумны ўрад, партакратаў і бюракратаў, марудлівасьць рэформаў — паўтараць вядомае й неаднакроць чытанае.

Здаецца, кіраўнікі БНФ усіх узроўняў дапусьцілі пралік у тактыцы. Яны аўтаматычна запісалі ў свае рады ўсіх, хто падпісаўся за датэрміновыя выбары ў вышэйшы ворган улады, за правядзеньне рэфэрэндуму. Амаль 500 тысячаў — лічба значная. Але ці азначае гэта стопрацэнтную падтрымку курсу БНФ? Думаю, што не. Адна справа патрабаваць адстаўкі, а іншая — ва ўсім падзяляць пазыцыі Народнага фронту.

Другая памылка, на маю думку, заключаецца ў непатрэбнай мітусьні вакол ПКБ, ДСПС і іншых арганізацый сацыялістычнай арыентацыі. Палоханьне грамадзтва жахамі пасьля прыходу апошніх да ўлады, звароту партакратычных мэтадаў кіраваньня й г. д. вядзе толькі да рэакцыі ў адказ, тым жа запалохваньнем людзей магчымасьцю прыходу да ўлады «карычневых», «нацыяналістаў» — і як вынік — беларускім Карабахам. Прычым, палеміка з абодвух бакоў вядзецца з навешваньнем ярлыкоў, зьневажаньнем, няўменьнем спрачацца й даводзіць сваё пераканаўча й аргумэнтавана.

Прайграюць жа й тыя, й тыя. А палітычны капіталец непрыкметна назапашваюць трэція — прыхільнікі цэнтрысцкіх пазыцый накшталт Шушкевічавай.— Гэтыя не палохаюць, гэтыя займаюцца справай: рыхтуюцца да выбараў, перацягваюць патэнцыяльных выбаршчыкаў на свой бок, разумна разважаюць пра эканоміку, шляхі выхаду з крызісу грамадзтва без гвалту, пра дысцыпліну працы, справядлівае размеркаваньне... Гавораць пра тое, што хочуць пачуць людзі, аб чым думаюць і што непакоіць. За цэнтрыстамі пойдзе значная колькасьць грамадзян.

Ужо ўнае змаганьне паміж камуністычным сьветапоглядам і дэмакратычнымі рухамі выкарыстоўвае яшчэ адна сіла — прафсаюзы. Цяпер лідары былых «школаў камунізму» пайшлі ва-банк. Да рашучых дзеяньняў падштурхоўвае пагроза страціць назаўсёды падтрымку працоўных, бо апошнія пераконваюцца, што прафсаюзы — гэта міф, абароны ад іх не дачакаешся. Па-другое, прафсаюзы губляюць падтрымку ў выглядзе шматмільённых грашовых субсідый. Вось чаму функцыянэры ад прафсаюзаў раптам рашуча заявілі аб недаверы Вярхоўнаму Савету й ураду, аб гатоўнасьці пачаць зьбіраць подпісы для правядзеньня рэфэрэндуму, падтрымкі забастовачнага руху. Яшчэ ўчора яны маўчалі, не падтрымалі БНФ, калі тыя зьвярнуліся да народу Беларусі выказаца за рэфэрэндум, які пасьпяхова патапіла ў юрыдычнай кручкатворчасьці большасьць Вярхоўнага Савета. Няўжо зноў спатрэбяцца подпісы? А мо прасьцей патрабаваць выканаць Закон аб рэфэрэндуме на падставе ўжо сабраных?..

Цікава было сачыць за публікацыямі ў вабласной будаўнічай газэце «Высота» пад рублыкай «Партийный перекресток». Тон задаў кіраўнік гарадзенскай гарадской арганізацыі ДСПС В. Архіпаў. Нездарма кажуць, што новае — гэта добра забытае старое.

Аўтар сумленна паўтарыў ленінскія думкі наконт улады, дыктатуры, пабудовы сацыялізму, зрабіў параўнаньні цяперашняга стану рэспублікі з нядаўнімі часамі, на яго думку, багатымі й шчасьлівымі. Ну, як заўсёды, бо стала модным, выказаўся за дзяржаўнасьць рускай і беларускай моў, аднаўленьне СССР.

Пазыцыя Ул. Архіпава не спадабалася сябру Рады Гарадзенскай філіі БНФ А. Лобану. Замест аргумэнтацыі — эмоцыі й пераход на асобу. Што ў сваю чаргу выклікала абурэньне чытача В. Цітова. І тут многа словаў, высокай патэтыкі, спрэчных высноў, спроба пераканаць нібыта працэнтамі й нібыта фактамі. А сутнасьць тая ж: добра жылося ў СССР, дзе было бясплатнае мэдыцынскае абслугоўваньне й адукацыя. Аднак аўтару не ўдалося ўзьняцца вышэй пераказваньня публікацый «Советской Белоруссии», хаця й была спроба аналізу й лагічнага пераканаьня. Відаць, мала чытаць толькі газэту «Мы и время», «Политика. Позиция. Прогноз». Трэба мець і ўласную думку.

На дзіва падобны на допіс А. Цітова й матэрыял «Ответ разгневанному „Адраджэнцу“» некага А. Міхайлава. Дарэчы, ён напісаў: «Я не член партии и не состою в ДСПС...» А дарэмна. І ПКБ, і ДСПС маглі б ганарыцца такім сябрам. Бо як не стараўся аўтар быць памяркоўным у сваіх выказваньнях, усё ж ягоныя палітычныя крэда відавочнае: БНФ — дрэнна, БЗВ — дрэнна, перабудова, распачатая М. С. Гарбачовым — дрэнная. За стабільнасьцю Беларусі А. Міхайлаў палічыўся. Якая ж стабільнасьць, калі нават паслухмяныя заўсёды прафсаюзы пачалі выводзіць людзей на вуліцы й пратэставаць супраць дзеяньняў урада В. Кебіча, чые словы з задавальненьнем прыводзіць «не член партии»...

Спадар А. Міхайлаў узброіўся крытычнай дубінай супраць эканамічнай праграмы БНФ (старой, заўважым), дзе ўбачыў «фразерство, популизм, наукообразные фразы» толькі таму, што праграму зацьвярджалі «театровед и поэт, филолог и врач, литературовед и физик, т. е. люди, весьма далекие от экономической науки». Можа, шаноўны А. Міхайлаў эканаміст па адукацыі? Тады яму й карты ў рукі. Няхай паразважае над выказваньнямі «вялікіх эканамістаў» з урада рэспублікі, якія нядаўна ў прамым эфіры пацяшалі слухачоў дзіцячым лепетам аб эканамічных рэформах, стабілізацыі вытворчасьці і інш. Былі яны разумнымі, калі Расея давала крэдыты, танную нафту й газ. Няхай цяпер пакажуць сваё ўмельства ў рынкачнай эканоміцы. Больш спадзявацца няма на каго. Хіба падпарадкавацца дыктату Нацыянальнага Банка Расеі (нават не ўрада) і здацца на міласьць пераможцам. Вось вам і ўся эканоміка з праграмамі, паездкамі па далёкіх і блізкіх краінах, падпісаньнем пратаколаў аб намерах. Нібыта езьдзілі, нешта падпісвалі, а народ у галечы. Мо ў спадара ці таварыша А. Міхайлава поўныя кішэні грошай? Тады іншая справа. Бедны багатаму не таварыш.

Замест работы сярод людзей, левыя й правыя (дзе хто, й разабрацца цяжка) сварацца паміж сабой, абвінавачваюць адзін другога ў дэмагогіі. Камусьці гэтая валтузьня на руку. Глядзіш, ціхенька пройдуць у Саветы, створаць урад, запануюць. А шчырыя барацьбіты застануцца у разьбітага карыта. І ўсё ад таго, што ня могуць узьняць галовы, каб убачыць зоры. А па зорах пракладваюць шлях.

**В. ЗАДАЛЯ,**
**дэпутат вабласнога Савета, палітолаг.**

## Выхад з паліўна-энэргэтычнага крызісу й ўмацаваньне дзяржаўнай незалежнасьці

**14—15 ліпеня гэтага года ў Менску прайшла міжнародная канфэрэнцыя краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну «Шляхі выхаду з паліўна-энэргэтычнага крызісу», у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі Украіны, Летувы, Латвіі й Беларусі. Прапануем чытачам «Пагоні» даклад З. Пазьняка, які быў прапанаваны ўдзельнікам канфэрэнцыі.**

Шаноўныя спадары!

Наша канфэрэнцыя мае практычны харатар і вызначана канкрэтнымі й даволі вузкімі задачамі — разгледзець агульныя праблемы выхаду з паліўна-энэргэтычнага крызісу шляхам стварэньня балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара. Ажыцьцяўленьне такой задачы было б эканамічна выгадна ўсім краінам Усходняй Эўропы, выклікала б разьвіцьцё раўнапраўных партнёрскіх адносін паміж дзяржавамі. Стан, у якім апынуліся краіны Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну пасьля распаду СССР, нельга назваць нармальным ні ў эканамічных, ні ў палітычных адносінах. У Савецкім Саюзе імпэрская палітыка дамінавала над эканомікай. Эканамічныя інтарэсы рэспублік ня ўлічваліся. Існавала строгая цэнтралізацыя, стваралася адзіная імпэрская ваенна-індустрыяльная дзяржава. Пасьля яе распаду, перабудовы й вызваленьня былых рэспублік галоўнай эканамічнай праблемай для краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну стала пытаньне паліўна-энэргэтычнага забеспячэньня. Праблема створаная для нас у значнай ступені штучна й абумоўлена манапольным існаваньнем Расеі на нафтавым рынку Усходняй Эўропы. Для нашых краін аднолькава востра паўстала пытаньне стварэньня якасна новых крыніц сыравіны для забеспячэньня энэрганосьбітаў. Праблема не выглядала б так драматычна, каб наш усходні сусед не выкарыстоўваў сваю часовую энэргэтычную перавагу ў палітычных мэтах, галоўны сэнс якіх — стварэньне жорсткай эканамічнай і палітычнай залежнасьці нашых дзяржаў ад Расеі, забеспячэньне дамінуючага становішча Расеі ва Усходняй Эўропе, нават падаўляючы сувэрэнітэт усходнеэўрапэйскіх краін, што вынікае з дзеяньняў найбольш шавіністычных расейскіх дзеячоў і груповак.

Другая прычына надзённасьці гэтага пытаньня — нерашучая й непрадуманая эканамічная палітыка усходнеэўрапэйскіх дзяржаў. Што тычыцца Беларусі, напрыклад, і ў значнай ступені Украіны,— то палітыка іх кіраўніцтва накіравана, па сутнасьці, на захаваньне адміністратыўнай эканомікі з наданьнем уласна-камэрцыйнай ролі дзяржаўным адміністратарам. Гэтыя людзі працягваюць існаваць і кіравацца адміністратыўнай залежнасьцю і ня схільныя да кардынальнай зьмены становішча.

Тым ня меньш, аб´ектыўна, як бачым, ва ўсіх краінах Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну Усходняй Эўропы існуюць аднолькавыя праблемы з усходам і аднолькавыя задачы на захадзе.

У гэтай сітуацыі неабходна каардынацыя высілкаў па эканамічным і асабліва паліўна-энэргэтычным пытаньням усіх краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну, і выказвае зьдзіўленьне, што яе да гэтае пары няма. Эканамічная выгода такой каардынацыі відавочная. Рашэньне пытаньня паліўна-энэргэтычнага забеспячэньня, хаця б частковае, палепшыла б сітуацыю ў вытворчасьці, у сацыяльна-псіхалагічнай сфэры, садзейнічала б умацаваньню нацыянальных валют, зьніжэньні інфляцыі, а ў рэшце рэшт, сьцьвярджала б незалежнасьць нашых дзяржаў.

Узгадненьне эканамічнай і паліўна-энэргэтычнай палітыкі балтыйска-чарнаморскіх краін мае, на мой погляд, добрыя стабілізуючыя пэрспэктывы для ўсяго рэгіёну Усходняй Эўропы. Агульная аўтаномная сістэма забеспячэньня й дастаўкі нафты можа істотна зьмяніць становішча, дае магчымасьць усім вольна ўздыхнуць, перайсьці ад становішча выжываньня да зьмястоўнага будаўніцтва сваіх дзяржаў, паскорыць эканамічныя рэформы, зьнізіць палітычны ціск з усходу.

Гісторыя ўзаемаадносін нашых краін з усходам і аналіз становішча пераканаўча паказваюць, што, якой бы не была сістэма ўлады ў Расеі, якія б мэты яна не дэкляравала, там заўжды будуць уплывовыя групы, якія імкнуцца да экспансіі і падаўленьня, да ўзьнясеньня ролі палітыкі над эканомікай, да выкарыстаньня эканамічнага шантажу ў імпэрскіх інтарэсах. Палітыка гэтых груп будзе вызначальнай і тым больш адкрытай, тым большай будзе спакуса выкарыстаць нашую слабасьць, разьяднаньне й эканамічную безабароннасьць. Сітуацыя паказвае, што супрацьстаяць паліўна-энэргэтычнаму шантажу ня ў стане нават такая багатая й патэнцыяльна моцная краіна як Украіна. Пасьля распаду СССР нашыя краіны выпалі з гэапалітычнай супрацьвагі, якая склалася паміж усходам і захадам. Вырваўшыся з імпэрскіх межаў, кожная з нашых краін сьпяшаецца хутчэй на захад, імкнецца вярнуцца ў Эўропу, жадае стаць стабільнай у сістэме новых узаемаадносінаў. Але захад існуе ў іншай сістэме эканамічных каардынат. Нават такія краіны як Польшча, Чэхія, Славакія, Вэнгрыя пайшлі ўжо далёка наперад. Эканамічныя раўнапраўныя партнёрскія адносіны з імі з гэтай нагоды выклікаюць пэўныя цяжкасьці. У той жа час мы чуем за сьпіною цяжкае дыханьне старой імпэрыі, якая ўсё яшчэ трымае нас за рукі, імкнецца вярнуць. Мы апынуліся як бы паміж усходам і захадам.

У такой сітуацыі найбольш правільным рашэньнем, на мой погляд, было б усьведамленьне агульнасьці сваіх інтарэсаў, разуменьне сваёй ролі як стабілізуючага элемэнту паміж усходам і захадам. Аб тым сьведчыць уся нашая (дарэчы, у значнай ступені агульная) гісторыя і рэальнае становішча ў нашым рэгіёне Эўропы. Калі мы ня зробім крок насустрач адзін аднаму і не аб´яднаем высілкі, накіраваныя на самазахаваньне,— мы абцяжарым сваё становішча. Калі, напрыклад, у Беларусі з-за штучна створаных умоў адбудзецца эканамічны абвал, і наша краіна пазбавіцца

# *ГРАМАДЗТВА*

## Вотчына па-ласасянску

Калі ў рэдакцыю «Пагоні» завітаў падзьвіжнік адраджэньня ісламу Юсуф Крыніцкі, то па ягонаму выгляду я адразу здагадаўся, што здарылася нешта незвычайнае. Спадар Крыніцкі прысеў на прапанаванае яму крэсла й распачаў свой аповяд. Першае, што згадаў госьць — гэта тое, што жыхары Ласосна забаранілі весьці дасьледчыя работы па адбудове бліз мястэчка мусульманскай мячэці. Па словах Юсуфа, некалькі дзесяткаў людзей, узброеных віламі й сякерамі, прыйшлі на надзел, які нядаўна выдзеліў пад будову Гарадзенскі гарвыканкам, і заявілі, што ніякіх храмаў, апроч каталіцкіх, у Ласосна ня будзе. Таму, каб пазьбегнуць непаразуменьняў, спэцыялістам, якіх на сродкі мусульманскай дыяспары выклікалі з Менску, лепей адазваць назад, а працы па дасьледваньню глебы спыніць. Зразумеўшы катэгарычнасьць заявы сялян, працы прыпынілі, а Крыніцкі са скаргай пайшоў у гарвыканкам і да біскупа пана Кашкевіча. І ў гарвыканкаме, і ў рэзыдэнцыі біскупа Юсуфа выслухалі, абяцалі дапамогу. Біскуп сам асабіста абяцаў паехаць да мястэчка й паразмаўляць з вернікамі. У гарвыканкаме вырашылі пайсьці больш простым шляхам. Узялі, ды й затэлефанавалі ў праўленьне мясцовага калгасу: так, маўляў, існуе пэўнае рашэньне на перадачу 0,5 га зямлі пад будову мячэці. Але тыя часы, калі тэлефоннага званка высокага начальства хапала, каб усё йшло, як па маслу, скончыліся. І кіраўніцтва калгасу адказала на запыт гарвыканкама, што зямля, якую той па асабістай ініцыятыве выдзяліў пад будаўніцтва, належыць калгасу. Таму толькі агульны сход калгасьнікаў мае права вырашаць яе лёс.

Зразумеўшы безпадстаўнасьць рашэньня гарвыканкама, спадар Крыніцкі спадзяваўся цяпер толькі на аўтарытэт пана Кашкевіча. Яшчэ раз наведаў яго й папрасіў дапамагчы, зьезьдзіць на агульны сход калгасьнікаў і паўзьдзейнічаць на яго рашэньне. Біскуп стрымаў сваё слова, зьезьдзіў на сход, на якім, згодна вынятцы з пратаколу, прысутнічала 168 чалавек. На жаль, прысутнасьць высокай рэлігійнай асобы нічуць не ўтаймавала разьюшаных каталікоў-калгасьнікаў. Таму рашэньне самае што ні на ёсьць ваяўнічае: «Решили отказать в выделении земельного учатка 0,5 га религиозному объединению мусульман г. Гродно для восстановления мусульманской мечети». Побач дадатак: «Выписка верна. Инспектор отдела кадров Н. А. Гарват».

Арымаўшы выпіску, разам з Юсуфам затэлефанавалі да спадарыні Н. А. Гарват. Пачуўшы, пра што пойдзе гаворка, інспэктар лагодна ўсьміхнулася й зазначыла, што яна асабіста не супраць, але знайшлося некалькі чалавек, якія прыйшлі на сход на падпітку й на сваю карысьць вырашылі лёс сходу.

Вось табе, як кажуць, «бабулька, й Юр ´еў дзень», выходзіць, некалькі п ´яніц могуць маніпуляваць думкаю больш за паўтары сотні прысутных. Паўстае пытаньне. А дзе ж было кіраўніцтва калгаса «Гродзенскі»? Чаму яно дапусьціла ў залу пьяных, цярпела іх выбрыкі?

Спадарыня Гарват уздыхае й дадае, што яна полька, й што бальшасьць калгасьнікаў каталікі, да мячэці хадзіць ня будуюць. Але ж мячэць для сваіх патрэбаў будуюць вернікі — мусульмане Горадні? Яны будуць прыходзіць сюды на імшу, узбагачацца духоўна?

Пытаньні, пытаньні... Адказы на іх атрымаць вельмі цяжка, бо ніхто не жадае быць цяпер апошняй інстанцыяй. У гарвыканкаме спасылаюцца на тое, што вясковыя людзі, якія шмат часу пражылі адным гуртам, вельмі балесна рэагуюць на тое, што ў іх уладаньнях зьяўляюцца чужынцы. Таму могуць быць самыя нечаканыя крокі — бойкі, падпальваньні й іншае. Прыклад — адносіны сялянства да садова-агародніцкіх надзелаў, якія некалі былі нарэзаны гараджанам на пустэчах.

Прыкладна такія ж спасылкі і ў біскупа. Але мне хочацца задаць адно пытаньне: хто кіруе ў нашым грамадзтве — законна выбраныя народам улады ці пьяныя мужыкі?

**Г. АСТРОЎСКІ.**




*Фатаграфавай Б. МЕШЧАРАКОЎ.*

## Чаму маўчаць вуніяты!

Зусім іншае прызначэньне набылі мэтадычныя габінэты піянерскіх лагераў Горадні. Некаторыя кіраўнікі скарысталі вольныя пакоі для разьмяшчэньня ў іх камэрцыйных структураў ці для арганізацыі кропак адпачынку.

А вось у лагеры «Купалінка» вытворчага аб ´яднаньня «Азот» да гэтага пытаньня падыйшлі вельмі своеасабліва. Па дамоўленасьці з рознымі канфэсіямі горада тут пачалі працаваць нядзельныя школкі. У вызначаны час да жадаючых пачуць слова Боскае прыяжджаюць сьвятары, мніхі, прапаведнікі. Дагэтуль пра гісторыю паходжаньня сваёй рэлігіі распавялі дзеткам прадстаўкі праваслаўнай і каталіцкай канфэсій.

На жаль, маўчаць пакуль што гарадзенскія вуніяты.

**Г. У.**

часткі свайго сувэрэнітэту, вынікам гэтага будзе стварэньне тут расейскага стратэгічнага плацдарму. Няўжо не зразумела, што сітуацыя створыць непасрэдную пагрозу ўціску на Украіну. Ці будзе спакойна глядзець на гэта Польшча, Латвія, Летува? Я прапаную рэальна ўявіць і ацаніць такую пэрспэктыву, таму што гэта не абстрактная разумовая высьнова. З усходу робяцца рэальныя крокі антыдэмакратычных праімпэрскіх сіл, каб рэалізаваць свае замыслы.

Узаемаадносіны ў гэапалітыцы, як і ў эканоміцы, маюць свае заканамернасьці. Уявім, што ў Расеі няма ніякіх шавіністычных, пракамуністычных і праімпэрскіх уплывовых на палітыку сіл. Уявім, што там цывілізаваны ўрад. Аднак тэрыторыя, колькасьць насельніцтва, эканамічны патэнцыял Расеі настолькі агромністы, што ні адна дзяржава на ўсходзе Эўропы ня можа ёй супрацьстаяць. Нават Украіна. Тут няма балансу сіл і ўзьнікаюць умовы для абсалютнага палітычнага дамінаваньня Расеі. Каб захаваць стабільнасьць і незалежную палітыку, неабходна стварыць гэты баланс сіл, так як гэта рабілася ў Эўропе — шляхам эканамічнай, гандлёвай, тэхналагічнай, энэргэтычнай, экалагічнай каардынацыі разьвіцьця і аб ´яднаньня высілкаў на аснове кансэнсуса для рэалізацыі й абароны сваіх нацыянальных інтарэсаў.

Скаардынаваная эканамічная палітыка краін Балтыйска-Чарнаморскага міжмор ´я, асабліва ў галіне паліўнай энэргэтыкі, у стане нэйтралізаваць нафтавы дыктат з усходу. Тым больш трэба ўлічваць, што дабыча нафты ў Расеі дэградуе, а рэсурсы скончаюцца. У пэрспэктыве Расея сама вымушана будзе купляць нафту. У гэтым выпадку роля Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара стала б яшчэ больш значнай. Разгляд пэрспэктываў паказвае, што краіны БЧР абавязкова павінны прыйсьці да неабходнасьці яго будаўніцтва. Таму, чым раней мы разгледзім гэтую магчымасьць, чым хутчэй возьмемся за справу, тым лепш.

Ідэя эканамічнай каардынацыі краін Балтыйска-Чарнаморскага міжмор ´я ня новая. Яна ўзьнікла на пачатку стагоддзя ў асяродку беларускіх палітыкаў нацыянальна-адраджэнцкага накірунку і ўпершыню прадэклямаваная ў 1916 годзе на дэмакратычным зьездзе ў Лазане. З 1989 году да думкі аб балтыйска-чарнаморскім супрацоўніцтве ў барацьбе за незалежнасьць стала вяртаўся Беларускі Народны Фронт. Адбылося некалькі міжнародных нарад і палітычных канфэрэнцый, якія, аднак, не прывялі да рэальных дзеяньняў. Нарэшце само жыцьцё, разьвіцьцё паліўна-энэргэтычнага крызісу й магчымыя наступствы яго ў будучыні паставілі пытаньне аб аб ´яднаньні высілкаў вельмі канкрэтна. Неабходна скаардынаваная праца.

Эканамічная неабходнасьць сумеснага выхаду з крызісу не выключае супрацьдзеяньня гэтай неабходнасьці, прадыктаванага толькі палітычнымі інтарэсамі, ці палітычным процістаяньнем. Пры гэтым шмат хто шчыра не разумее, што энэргэтычных пэрспэктываў на ўсходзе няма, а за тое, што яшчэ ёсьць, нас прымушаюць разьлічвацца ўласнай нацыянальнай пэрспэктывай. Ідэю эканамічнага супрацоўніцтва і каардынацый дзеяньняў нашых краін у Беларусі з незразумелай, на першы погляд, агрэсіўнасьцю не прымаюць усе палітычныя сілы камуністычнага накірунку і розныя праімпэрскія групоўкі, якія выконваюць у сёньняшніх умовах ролю пятай калоны, і якія выступаюць супраць незалежнай беларускай дзяржавы. Гэтыя ж сілы займаюць найбольш варожую пазіцыю і на ўсходзе. Палітызаванае ўспрыняцьце малюе ім карціны «краха России, заговоры против русских, происки ЦРУ, НАТО, Института Крибла и прочих «капиталистов». Сутнасьць гэтых паводзін ва ўсьведамленьні таго, што нашае сумеснае рашэньне праблемы выхаду з паліўна-энэргэтычнага крызісу робіць нашу незалежнасьць неадваротнай. Нафта — галоўны аргумэнт узьдзеяньня імпэрскай палітыкі — перастае быць эфэктыўным аргумэнтам. Узгадаем 1990 год, гарбачоўскую нафтавую блакаду незалежнай Летувы. Тады, у тых умовах, беларусы здолелі ціха і без агалоскі дапамагаць Летуве. Потым, калі самі разам з Украінай адчулі на сабе ціск з усходу, дапамогі чакаць не было ад каго. Неабходна ўсьвядоміць, што дапамога ў нас саміх, у нашых агульных дзеяньнях і рашэньнях, у нашай салідарнасьці, у нашым жаданьні, нарэшце, выйсьці з крызісу **разам**, а не па аднаму. Рашэньне праблемы ляжыць на паверхні, трэба толькі працягнуць руку й ўзгадніць высілкі. Гэта чыста эканамічная й тэхналагічная задача. Яна патрабуе прадуманага, рашучага й хуткага ажыцьцяўленьня.

## Дзіця — вялікая раскоша

Больш вольнага часу стала ў лекараў Гарадзенскага раддому. Дадатковыя вольныя хвіліны зьявіліся не за кошт навуковых дасягненьняў у гэтай спэцыфічнай галіне мэдыцыны, а толькі таму, што апошнім часам значна панізілася жаданьне гарадзенак станавіцца матулямі. Калі летась за суткі нараджалася прыкладна 25 немаўлят, то сёлета гэтая лічба вагаецца на ўзроўні 10—12 народзін. Жыцьцё даражэе.

**Г. А.**

## Вечарына для бізнэсмэнаў

У Горадні створаны аргкамітэт па правядзеньню музычнай вечарыны для бізнэсмэнаў горада й вобласьці. Папярэдне плануецца правесьці вечарыну праз месяц у гарнізонным Доме Афіцэраў. Зараз аргкамітэт распрацоўвае канцэртную праграму ў якой будуць выступы прафэсійных і аматарскіх калектываў, а таксама возьмуць удзел артысты эратычнага жанру, , што на думку арганізатараў, дапаможа зьвярнуць увагу дзелавых людзей да мастацкіх калектываў і іх патрэбаў.

**Г. У.**

 



# Апошні ліст на Радзіму

Выбухі снарадаў страсалі паветра, а Язэп Кулік усё не сьпяшаўся ні хавацца, ні ўцякаць. Ён пільна аглядаў апоны новенькіх ровараў, прыладжваў да багажнікаў невялікія, ладна спакаваныя скрынкі. Калі і з гэтай справай было скончана, Язэп зайшоў у хату. Тут яго чакалі малодшы брат і бацька з маці. Язэп дастаў з кішэні летніка паперы, перачытаў іх і падаў па адной брату й бацькам.

— Гэта нямецкія пропускі, «аусвайсы»,— коратка зазначыў ён родным.— Па іх мы без перашкод даедзем аж да Берасьця, а там па чыгунцы драпанем ў Нямеччыну. Заставацца й чакаць прыходу Саветаў няма сэнсу, усё роўна расстраляюць ці, ў лепшым выпадку, пасадзяць у турму. Я ж не хачу быць забітым ці вязьнем, я жадаю жыць прыгожа і ў дастатку. Гэтаму я прысьвяціў чатыры апошнія гады ўласнага жыцьця, і свае здабыткі не жадаю страчваць.

Зразумеўшы, што сын гаворыць вельмі сур´ёзна, бацькі запярэчылі.

— А навошта ж ты, сынку, пайшоў служыць да немцаў? Навошта браў удзел у пагромах габрэяў, навошта разам з немцамі рабіў допыты ў турмах? Дый як нам, немаладым людзям, на роварах ехаць аж да Берасьця? Няўжо нельга было знайсьці месца ў цягніку ці здабыць фурманку...

Язэп усьміхнуўся.

— Я ж вас папярэджваў, што трэба сьпяшацца, не чакаць, а вы ўсё ня слухалі мяне. Раней было ўсё: і цягнік, і тры вагоны дарагіх рэчаў. Дзякуючы вашай марудаснасьці вагоны забралі немцы пад рухомы шпіталь, таму ўсё дабро прыйшлося абліць газай і падпаліць. Траціць апошняе я ня буду, трэба ехаць. Бацькі ціха памаліліся і выйшлі на вуліцу. Страляніну было чуваць на ўскрайку вёскі. Марудзіць не было як, і невялічкі атрад, націскаючы на пэдалі, шпарка падаўся ў бок Пінска. Не даяжджаючы горада, падарожнікі зьвярнулі ўлева й аб´ехалі Пінск. Язэп ехаў першы, час ад часу ён паварочваў галаву, глядзеў, ці не адсталі астатнія. Прыкладна праз тры гадзіны язды спыніліся, каб адпачыць, падсілкавацца. Але доўга адпачываць не прыйшлося — уздоўж дарогі рухаліся нямецкія аўтаатрады. Язэп у адным з легкавікоў убачыў знаёмага афіцэра. Той сказаў, што рускія на поўдні ад Пінска прарвалі лінію фронту і ёсьць небясьпека, што іх перадавыя атрады могуць перарэзаць шлях да адступленьня. Нягледзячы на стомленасьць маці, Язэп загадаў ехаць. Ехалі без прыпынкаў амаль увесь астатні дзень. За Кобрынам трапілі пад налёт савецкай авіяцыі. Жудасна было глядзець, як ад узрываў бомбаў гінулі не вайскоўцы, а звычайныя цывільныя людзі, бо некаторыя ад страху выбягалі са сваіх сховішчаў і на адкрытай мясцовасьці траплялі пад чэргі паветраных стралкоў. Калі налёт скончыўся, сям´я Кулікоў працягвала свой шлях. Без перашкодаў даехалі да Берасьця, дзе спыніліся пераначаваць у сваякоў. Раніцой Язэп пайшоў да нямецкага камэнданта. Але той сказаў, што яму няма да яго справы, бо ён, камэндант, у першую чаргу павінен клапаціцца пра асобаў нямецкага паходжаньня й войска. Пасьля сустрэчы з камэндантам Язэп застаўся у роспачы. Ён казаў сваякам, што немцы — здраднікі, і што цяпер яму не ўцячы ад савецкай турмы. Сваякам было шкада Язэпа, якому ішоў 24 год. І яны парадзілі бацькам ехаць далей такім жа чынам на роварах. Іншага выйсьця не было. І зноў сям´я разам паехала далей. Праз гадзіну былі ў горадзе Цераспалі. Тут Язэпу вельмі пашчасьціла: ён знайшоў месца ў цягніку, які адвозіў бежанцаў у глыб Польшчы. Сям´я ўладкавалася ў вагоне й шчасьліва даехала да Уроцлава. Затрымвацца доўга на тэрыторыі Польшчы было небясьпечна, і Язэп дабіўся дазволу вывезьці сям´ю ў Баварыю.

Большасьць гарадоў баварскага краю ляжала ў друзах ад налётаў англа-амэрыканскай авіяцыі. У вачох людзей жоўтымі агеньчыкамі сьвяцілася роспач, жуда. Пражыўшы нейкі час у прыгарадах Мюнхэна разам з бацькамі, Язэп вырашыў пашукаць сабе месца працы. Знайсьці добрую працу яму было ня цяжка. Паўсюдна патрабаваліся мужчынскія працоўныя рукі. Язэп выбраў сабе працу ў пажарнай каманьдзе. Амаль кожную ноч ён выяжджаў тушыць пажары, якія ўзьнікалі ад бамбардзіровак. Нярэдка даводзілася працаваць на раскопках разьбітых дамоў. На гэтай працы вельмі часта траплялісся каштоўныя рэчы з золата, срэбра. Іх належыла здаваць, але сёе-тое можна было ўтойваць. Прыкладна на пачатку сакавіка Мюнхэн занялі англа-амэрыканскія экспэдыцыйныя часткі. Яны разброілі войска й пажарную каманду. Але загадалі ўсім былым пажарным працаваць на аднаўленьні вуліц. Працуючы ў асяроддзі немцаў, Язэп чуў, што ўсіх былых нямецкіх памагатых арыштоўваюць. Ён вельмі баяўся, каб хто-небудзь з немцаў не данёс на яго. Таму Язэп амаль не наведваў бацькоў. Гэта ён рабіў дзеля таго, каб у новых уладаў не выклікаць лішняй падазронасьці. Выйсьце з цяжкага становішча дапамог яму знайсьці сталы немец: ён параіў Язэпу ажаніцца, і тады ўсё будзе добра. У нявесткі немец прапанаваў сваю дачку Гэрду, муж якой загінуў на ўсходнім фроньце. Хлопец пагадзіўся, і праз кароткі тэрмін згулялі вясельле. Маладыя ўзялі шлюб у лютэранскай царкве й пасьля вясельля пасяліліся ў бацькоў Гэрды. Гэрда была ціхай, паслухмянай, шчырай, і калі Язэп прапанаваў ёй пакінуць бацькоўскі дом і ад´ехаць у Амэрыку, адразу ж пагадзілася. Бацькі Гэрды таксама не пярэчылі, і маладыя праз месяц падрыхтоўкі купілі білеты да Сан-Францыска. Амэрыканскія мытнікі былі вельмі зьдзіўленыя, калі ўбачылі маладога эмігранта з Нямеччыны з вялікай колькасьцю валізак, кайстраў.

Жыць у вялікім горадзе Язэп не пажадаў. Яму было болей д аспадобы вясковае жыцьцё. Але памяняць месца жыхарства эмігранту нават у Амэрыцы нялёгка. Язэпу прыйшлося атрымаць часовы пашпарт эмігранта й пяць гадоў жыць на правох чалавека другога гатунку. У 1952 годзе ён атрымаў грамадзянства ЗША, а яшчэ праз нейкі час выклікаў з Нямеччыны сваіх і жончыных бацькоў.

Калі абедзьве сям´і аб´ядналіся ў Амэрыцы, то кемлівыя немцы прапанавалі купіць ранча й стаць фэрмэрамі. Язэп даў згоду, і праз агенства, якое гандлявала нерухомасьцю, пад працэнты купіў у штаце Тэхас ладную фэрму плошчай 50 гэктараў.

На новае месца жыхарства пераехалі ў 1953 годзе Адразу ўзяліся за справу. Набылі трактар, сельскагаспадарчыя рэчы й вырашылі, што на ранча будзе вельмі выгодна займацца жывёлагадоўляй. Язэп хацеў вырошчваць гародніну, але бацька Гэрды пераканаў яго ў большай прыбытковасьці жывёлагадоўлі. Пабудавалі стойлы, набылі жывёлу, і справа пайшла. Суседзі, якія працавалі на сваіх надзелах, зьдзіўляліся хуткаму росту фэрмэрскай сям´і. Але стары й дасьціпны немец адказваў ім жартам: маўляў, што вы хочаце, мы ж тут спалучылі нямецкую гаспадарчасьць з беларускай працавітасьцю. Так што вынікам гэтага злучэньня няма чаго дзівіцца й зайздросьціць. Фэрмэрскія справы йшлі добра і на 50 га тэхаскай сядзібы станавілася цесна. Язэп вырашыў пашырыць свае ўладаньні. Ён наноў зьвярнуўся да знаёмага агенства за дапамогай. Праз пэўны час агенты далі яму інфармацыю, што на тэрыторыі Мэксікі ідзе распродаж нерухомасьці збанкрутаваўшай сельскагаспадарчай фірмы. Яны параілі набыць востраў гэтай фірмы ў Ціхім акіяне, дзе можна распачаць вырошчваць экзатычныя гатункі садавіны й гародніны, бо клімат на востраве мяккі й вільготны. Язэпу гэтая прапанова прыйшлася даспадобы. Ён зьезьдзіў на востраў і на ўласныя вочы пераканаўся ў яго пэрспэктыўнасьці. Зьдзелка адбылася ў Мэхіка ў аднайменным гатэлі, дзе Язэп Кулік стаў уласьнікам цэлага вострава. На тэхаскім ранча рэй павёў малодшы брат Язэпа, а сам ён з жонкай і дзецьмі ў 1967 годзе пераехаў жыць на востраў. І там справы пайшлі ў гару. Язэп стварыў новыя палі, дзе ў яго расьце шмат розных ягадаў, яблыкаў, ананасаў, апэльсінаў. Сваю прадукцыю ён часткова рэалізуе на мацерыку, часткова перапрадае бізнэсмэнам, якія распаўсюджваюць яе на выспах, дзе шмат турыстаў. Дзякуючы адметнаму клімату вострава, некаторыя гатункі ягад давалі ўраджай па некалькі разоў у год. Таму, каб ураджай ня гінуў, Язэп вырашыў будаваць на востраве завод па перапрацоўцы садавіны й гародніны ў сухія гранулы для вытворчасьці напояў, спэцыяў і г д.

Посьпехі ў бізнэсе прыносяць задавальненьне, грошы, дабрабыт. Але часам Язэпу робіцца вельмі сумна, ён сумуе па Радзіме, пакутуе ад таго, што ня можа яе наведаць. Нават тыя кароткія лісты, што часам трапляюць ад яго на Беларусь да сваякоў, ён просіць адсылаць сяброў, знаёмых. Ох, як бы яму хацелася прыехаць на Палесьсе, паглядзець на сяброў дзяцінства, сустрэцца з каханай дзяўчынай, якая тады ў 1944 годзе жадала паехаць з ім у невядомае, але яе не адпусьцілі бацькі. Баіцца Язэп прыехаць на Радзіму, бо, відаць, чуе за сабою грахі, за якія трэба адказваць. Менавіта гэта я й адчуў, чытаючы апошні Язэпаў ліст на Радзіму да сябра, у якім Язэп Кулік паведамляе, што памерла яго жонка Гэрда, а сам ён нядаўна зрабіў апэрацыю на страўнік. Лекары выдалілі яму злаякасную пухліну.

Вось такі лёс звычайнага беларускага палескага хлапца, які ў юнацтве зрабіў легкадумны крок, за які прыходзіцца пакутаваць усё жыцьцё.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

# людзей

рэньне быў з захаду. Гэта лесьвіцца з цаглянымі прыступкамі. З паўднёвага боку ва ўнутраную прастору сутарэньня выступае падмурак контрафорса апсіды касьцёла.

У шурфах вакол касьцёла знойдзена шмат знаходак XVII — XX стст. Гэта паліваны, распісаны, мароны й непаліваны посуд, паліваная (і зрэдку паліхромная) кафля, цэгла, дахоўка, пліткі падлогі XIX ст., кавалкі сталовага й аптэкарскага шклянога посуду, фрагмэнты «рэйнскай» кэрамікі, каваныя цьвікі й рэшткі каванай мэталічнай агароджы к. XIX пач. XX ст., якая некалі была каля касьцёла.

Найбольшая колькасьць знаходак была ў шурфах з боку вуліцы Замкавай. Відаць, тут некалі стаялі цагляныя крамы (бо тут шмат бітай цэглы й хвалістай дахоўкі), якія былі разбураны па загаду гарадзенскага губэрнатара ў 1870 годзе.

У шурфе (з боку вуліцы Кастрычніцкай) быў прасочаны культурны слой з рэшткамі згарэўшай драўлянай забудовы й знаходкамі XVI ст. (напрыклад, гаршковая кафля).

Такім чынам, на першым этапе дасьледаваньняў ускрыта частка апсіды касьцёла й прыбудовы да яе з паўночнага боку. З заходняга боку раскопак мы дайшлі да сьцяны касьцёла, якая злучана з апсідай. У выніку шурфоўкі акрэсьлены й агульны план касьцёла.

Дасьледаваньні 1992 года паказалі пэрспэктыўнасьць далейшай працы на помніку. Рэшткі яго велічных муроў выклікаюць значны эмацыйны эфэкт і, такім чынам, цалкам прыгодныя для музэіфікацыі. На 1993 год плануецца прадаўжэньне дасьледаваньняў.

**А. КРАЎЦЭВІЧ,**
**А. ТРУСАЎ,**
**І. ТРУСАЎ.**

# Зорачкі

Цэлы год прыглядаліся адзін да аднаго. Прыгадваю цяпер іхнія вачаняты-зорачкі — кожныя гараць пасвойму. У Алегавых вачох дзесь глыбока сядзіць спалоханае чарцяня, у Ані вачаняты заўсёды зьдзіўленыя, у Наташы — надта ж цікаўныя — нічога не прапусьцяць... Пра кожнага вучня з нашае першае беларускае клясы ў Вільні я магу расказваць цэлы дзень.

Самая лепшая чытачка ў нас Марыля. Буквар яна чытае па-свойму — перакладае з беларускай на... беларускую. Разважае ўголас: «Не лімон, а цытрына, не каструля, а рондаль, ня поезд, а цягнік».

А вось Паўлік, дык той некалькі месяцаў ніяк ня мог завучыць літары. Аказалася, не разумеў, дзеля чаго яны патрэбныя, пакуль не пачуў, як Марыля сама вельмі хораша чытае кніжку... Праз тыдзень усіх дзяцей дагнаў, ды яшчэ як чытаў!

Толік з Натальляю — танцоры. Гэта ад іх уся кляса «заразілася» на бальныя танцы.

Косьціку кожны дзень ня цярпіцца атрымаць.. што б вы думалі? Хатняе заданьне. Тады ён чуецца роўным са старэйшымі сястрычкамі-школьніцамі.

А Славік ад сваёй бабулі выпытвае старыя прызабытыя слоўцы. Аднойчы прынёс такое — «пувак», гэта значыць пузаты, круглы павук.

* * *

На заканчэньне навучальнага году раблю для іх сьвята — вяду ўсю нашую невялікую клясу ў шыкоўную кавярню, адмыслова замаўляю самае лепшае марозіва — якіхсьці незвычайных лялек-сьнегавікоў — ажно шкода такі цуд есьці. Эфэкт шыкоўнага асяроддзя відзён адразу — у маіх жэўжыкаў прачынаецца сапраўдная шляхотнасьць. Так заўсёды — завучваецца толькі тое, што адметнае й сапраўднае.

* * *

Узяліся за адраджэньне Віленскай Беларускай Гімназіі. Якой яна мусіць быць?

Легендарная слава старой гімназіі, канкурэнцыя з сёньняшнімі летувіскімі, польскімі, расейскімі школамі не дазваляе адчыніць нейкую звычайную навучальную ўстанову. Мусім

**(Працяг на 6 стар.).**

 





# ФЭСТЫВАЛІ

## Дзікі птах верабей

Так, па назве аднайменнае кніжкі беластоцкае літаратаркі Міры Лукшы, ахрэсьцілі эмблему сёлетняга Фэстывалю музыкі маладой Беларусі «БАСОВІШЧА-93». На ёй — фал, які ўзмахнуў скрыдламі й з добразычлівай усьмешкай пайшоў на ўзьлёт на тле блакітнага неба з лёгкімі пухнатымі ваблочкамі. Магчыма гэта сымбалічна й рана казаць пра тое, што фэстываль «памёр», як то рабілі на Беларусі — акрамя выканаўцаў ды аднаго аўтобуса з менскага ліцэю, які з вялікай цяжкасьцю прарваўся праз савецкую мяжу, амаль ніхто ня прыехаў. Дарэчы, так ня лічаць ні арганізатары «Басовішча», ні іх ідэйны кіраўнік, галоўны мастак і вядучы Лёнік Тарасэвіч. Фэстываль становіцца сапраўды традыцыйным і набывае вопыт. У параўнаньні з мінулымі сёлятні адрозьніваўся ў лепшы бок цудоўным аздабленьнем сцэны, зьяўленьнем над ёю навяснога даху, а таксама прыстойнай якасьці гукаў ўзмацняльнай, сьветлавай і дымавой апаратурай. Гэта ўжо было сапраўднае лясное шоу. А зьяўленьне на сцэне рок-гуртоў з Беласточчыны, хаця й вельмі далёкіх ад прафэсіяналізму, сьведчыць пра набыцьцё адноснае самастойнасьці ад суайчыньнікаў з Беларусі. Ды й нават калі ў наступным годзе па аб´ектыўных прычынах і разбурыцца «джэнтэльмэнскі набор» выканаўцаў — «Мроя», «Новае неба», «Крама» ды «Уліс», якія вельмі павольна, але ўпарта выходзяць на эўрапэйскі шоу-рынак, «Басовішча» ўсё роўна будзе захоўваць сваю прыцягальную сілу для выканаўцаў з Беларусі. І ня дзіўна. Бо гэты фэстываль зьяўляецца міні-копіяй любога нармалёвага эўрапэйскага рок-фэстывалю з усімі ягонымі атрыбутамі — півам, тусоўкай, намётамі для глядачоў, музыкай й поўнай разьняволенасьцю. Нічога падобнага на Беларусі больш ня існуе й зусім не вядома калі зьявіцца.

А цяпер крыху пра вынікі. Пераможцам сталася «Мроя», якая ня проста добрасумленна адыграла ўсе свае падрыхтаваныя песьні, але, мабыць упершыню за гісторыю беларускага року паспрабавала зрабіць са свайго выступу шоу, выйсьці на непасрэдны кантакт з гледачамі. Хлопцы атрымалі прыз ад Гарадоцкае гміны, а Лявон Вольскі — прыз БАСу як лепшаму вакалісту. «Новае неба» атрымала традыцыйны ўжо «авангардовы» прыз за авангард ад Лёніка Тарасэвіча. Акрамя гэтых двух гуртоў у суботнім канцэрце ляўрэатаў выступілі мінулагодняя пераможцы — Віктар Шалкевіч і «Крама», а таксама нязьменны фаварыт — рок-гурт «Уліс».

У якасьці пажаданьня арганізатарам фэстывалю хацелася б параіць, каб яны ў будучым усё ж такі аплочвалі праезд рок-гуртам, для якіх гэта, калі ўлічыць колькасьць выканаўцаў,— грошы зусім немалыя, а прыяжджаць яны жадаюць выключна як музыкі, а не ў якасьці «русо турысто», аплочваючы праезд продажам гарэлкі.

**Алесь А. (Менск).**

## Экзотыка

З Даніі вярнуўся рок-гурт «Новае неба», які ўдзельнічаў у адным з буйнейшых у Эўропе Роскілдзкім рок-фэстывалі, што ўжо ў дваццаць пяты раз праводзіўся ў 20-ці мілях ад каралеўскае сталіцы — Капэнгагэна. Сам факт таго, што беларускі рок-гурт трапіў на такі буйны й прэстыжны рок-фэст, сьведчыць пра тое, што ў гэтым кансэрватыўным каралеўстве нарэшце сталі заўважаць зьяўленьне на мапе Эўропы нашае маладой незалежнай дзяржавы. І хаця для большасьці слухачоў беларуская авангардовая музыка асацыявалася з Масквою й Крамлём, ва ўсіх фэстывальных раскладах краіна, з якой прыехала Кася Камоцкая са сваім гуртом, была названая Беларусь, але не СНД. Адзін гэты факт можна лічыць дасягненьнем, бо звычайна ў дужках пазначалася толькі абрэвіятура.

На фэстывалі — 6 канцэртных пляцовак. Дзьве з іх — Аранжовая й Зялёная сцэны — для выступленьняў супэрзорак, добра вядомых у сьвеце. У гэтым годзе на іх выступалі Рэй Чарлз і «Міднайт Ойл», «Мотор Хэд» і «Антрэкс», Крыс Айсэк і «Авэркіль». Блакітная й Белая сцэны — невялікія, там выступалі невядомыя ў нас каманды з Даніі, Швэцыі, Францыі. Астатнія дзьве сцэны — Кабарэ й Уорлд — для экзотыкі. На апошняй, акрамя «Новага неба», выступалі з апрацоўкамі ўсходніх матываў амэрыкан скія кантры-гурты, сьпявалі лацінаамэрыканскія індэйцы й таньчылі афрыканцы. «Новае неба» спадабалася. Касе Камоцкай нават спрабавалі падпяваць. «Новае неба» не стварыла фурору. На фэстывалі гэта зрабіць практычна немагчыма. Таму што музыка тут далёка ня самае галоўнае. Гэтыя ўсе амаль сто тысячаў чалавек сабраліся разам дзеля «тусоўкі», дзеля «адвязу» і толькі потым дзеля музыкі. А таму больш захапляў людзей ня выступ, а сам факт зьяўленьня групы маладых людзей з-за саўдэпаўскай мяжы ў самае пекла нядаўняга ідэалягічнага камсамольскага аду. І таму ў памяці ўдзельнікаў беларускага рок-гурта больш застанецца не выступленьне, а тыя пяць дзён на сьвяце-карнавале бязьмежнай свабоды й вольнага духу.

**Алесь А. (Менск).**

## Зорачкі

**(Пачатак на 5-й стар.).**

знайсьці свае мэтодыкі, стварыць свае праграмы. Год працы ў нашай клясе па ўскладнёных гімназічных праграмах з дзецьмі, сярод якіх толькі адна добра ведала родную мову, паказаў, што гэта рэальна й магчыма.

* * *

Як дзецям было адважыцца загаварыць па-беларуску? Пачалі рабіць свой маленькі тэатрык, інсцэніраваць казкі. Сам Паўлік ці Вячка, можа, яшчэ й баяцца загаварыць, а вось Пакаці-Гарошак ці Каза-Манюка, ролі якіх яны бяруцца граць, па-беларуску загаварылі сьмела. А загаварылі ў казцы — назаўтра загавораць і на ўроках.

* * *

Заўсёды старалася запрасіць да сваіх вучняў цікавых гасьцей, каб расказалі пра свае захапленьні: пра калекцыі матылёў ці кактусаў, пра беларускія народныя строі, каб навучылі песьням і гульням, дапамаглі падрыхтавацца да сьвятаў. Некаторыя з гасьцей засталіся на сталую працу — вучыць гульні ў шахматы, бальным танцам, навучаць сьвяточным фальклёрным абрадам.

Самі разам з дзецьмі й бацькамі заўсёды хадзілі на імпрэзы, арганізаваныя беларускімі суполкамі Вільні. І дзеці, й бацькі пераконваліся — жыве ў Вільні беларуская мова.

* * *

Я ніколі не перастану паўтараць дзецям і бацькам — вам пашэньціла жыць у Вільні — у старажытнай Эўрапэйскай сталіцы, горадзе, у якім пераплецены культуры многіх народаў, у якім жыве подых гісторыі. Вельмі часта вандруем з дзецьмі па Вільні. «Дарослую» інфармацыю пра Скарыну, Каліноўскага, пра касьцёлы й замкі яны слухаюць з цікаўнасьцю й, бадай, хутка стануць экскурсаводамі.

Дзеткі правучыліся ўсяго адзін год. Рахунак падводзіць яшчэ рана. Але плён ужо ёсьць. Аднойчы на вуліцы сталая кабета пачула, як шчабечуць мае дзеткі, й кажа: «Даўно не чула, каб у Вільні малыя так хораша гаварылі па — просту». А яны хорам і з гонарам адказалі: «Мы з беларускай гімназіі».

**Галіна СІВАЛАВА,**
**выкладчыца першае беларускае клясы ў Вільні.**

## Фэстываль беларускай песьні



Напярэдадні Дня Незалежнасьці ў Горадні адбыўся Першы гарадзкі фэстываль беларускай эстраднай песьні. У ім узялі ўдзел шаснаццаць выканаўцаў і калектываў горада.

На думку арганізатараў фэстываль атрымаўся. Гран-пры дастаўся Ірыне Гаранкінай за песьні «Матчына мова» (сл. Л. Геніуш, муз. А. Кандыбы.) і «Не сумуй» (сл. Ю. Карэйвы, муз. А. Кандыбы), якая па ўзроўню выкананьня ня мела сабе роўных.

Асабліва прыемнае ўражаньне заставілі аб сабе на сцэне два жаўнерскія гурты: «Фолюш» і «Зялёныя пагоны». Трэба спадзявацца, калі жаўнеры засьпявалі песьні на словы Натальлі Арсеньневай і «Беларусачку» значыцца адбываюцца зьмены і ў нашым войску. Абодва гурты таксама былі адзначаны падарункамі.

І, вядома, фэстываль адбыўся дзякуючы падтрымцы мясцовых спонсараў: фірмам «Садко», «ВЭСТ», «Вікторыя», а таксама народным майстрам К. Валабуевай, Д. Іваноўскаму, мастаку А. Ларыёнаву і скульптару У. Церабуну.

**(ав).**

**На здымках: уладальніца Гран-пры фэстываля І. Гаранкіна і ўдзельнік гурта «Зялёныя пагоны».**

**Фатаграфаваў А. Уладасевіч.**



